№ 9 (132)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Чэрвень 2012 г.

# І НАВОШТА НАМ ГЭТЫЯ ВЫБАРЫ?




Выбары ў Палату прадстаўнікоў адбудуцца не пазней за 26 верасня, а дэмакратычныя сілы ўсё не вызначацца з канцэпцыю ўдзелу: хтосьці выставіць кандыдатаў, хтосьці будзе байкатаваць выбары, а хтосьці абірае нешта сярэдняе.

Асабіста я ў гэтым пытанні цалкам падтрымліваю меркаванне маладога Аляксандра Рыгоравіча: нафіга нам гэтыя выбары, усё роўна абмануць. Мала таго, што дэпутаты беларускага "парламента" вызначаюцца толькі тым, што бягуць навыперадкі, каб лізнуць адно месца нашаму галоўнаму начальніку, дык яны нават лянуюцца распрацоўваць хоць якіясь законапраекты. Калі не верыце, то можаце паглядзець статыстыку дзейнасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў апошніх скліканняў. Народныя абраннікі аднагалосна галасуюць за прадстаўленыя адміністрацыяй кіраўніка краіны і Саўмінам заканапраекты, сваіх жа прапаноў на разгляд практычна не выносяць. Дый навошта – заробак атрымліваюць вельмі нядрэнны, пенсія будзе "за заслугі", а так яшчэ якое слова ляпнеш не падумаўшы, дык да "кармушкі" больш не пусцяць. Спі сабе паціху на пасяджэннях, галасуй за адмену льгот, не высоўвайся і ўсё ў тваім жыцці будзе добра. Тым больш, што спаць спакойна ніхто не перашкаджае, прадстаўнікоў "пятай калоны" у "Палаце" няма ўжо шмат гадоў. Гэта ў ва ўсіх суседніх краінаў на абмеркаваннях законаў дэпутаты спрачаюцца, адстойваючы інтарэсы сваіх выбаршчыкаў так, што справа даходзіць аж да бойкі. У нас жа спрэчкі бываюць толькі наконт таго, хто больш пахваліць нашага нязменнага лідара і "квітнеючую Беларусь" пад яго мудрым кіраўніцтвам. Таму да ўсіх гэтых спрэчак прадстаўнікоў дэмакратычных сіл наконт удзелу ў "выбарах" я адношусь з пачуццём гумару і наогул прапаную замяніць наш "парламент" на аднаго Колю. Усё роўна ён у нас і так "спадчыннік", падымаць руку аднагалосна, як і нашы дэпутаты, зможа, а грошы

*(Пачатак. Працяг на стар. 2)*

## ЛЕАНІД ЗЛОТНІКАЎ: ПРЫЙДЗЕЦЦА ПРАЙСЦІ ПРАЗ «ШОКАВУЮ ТЭРАПІЮ»

Нацбанк імкнецца праводзіць жорсткую крэдытна-грашовую палітыку, тым часам урад і кіраўнік дзяржавы патрабуюць павышэння заробкаў і адначасова спынення інфляцыі. Эканаміст Леанід Злотнікаў упэўнены, што адначасова развязаць гэтыя задачы немагчыма.

Днямі эксперты Міжнароднага валютнага фонду заявілі, што бачаць у Беларусі рызыкі для новага вітка раскручвання інфляцыі ды дэвальвацыі. "Імкненне дасягнуць высокіх паказчыкаў эканамічнага росту і заработнай платы можа выклікаць новы віток раскручвання інфляцыі і дэвальвацыі ды стварыць пагрозу ўстойлівасці бюджэту і доўгу", – адзначаюць эксперты фонду. Паводле прагнозу МВФ, рост ВУП Беларусі ў 2012 г. складзе 3 % супраць 5,3 % у 2011 г., а інфляцыя знізіцца са 108,7 % да 38,4 %.

Леанід Злотнікаў мяркуе, што беларусаў чакае "шокавая тэрапія" ў эканоміцы. "Гэта вельмі жорсткая крэдытна-грашовая палітыка, "дарагія грошы". Гэта было ў Польшчы калісьці. Мы гэтага пазбеглі, але цяпер прыйдзецца расплачвацца за тое, што мы гэтага пазбеглі шляхам адыходу ад рынкавых рэформаў, вяртаннем да сацыялізму. І мы нікуды не падзенемся і пройдзем гэты шлях наноў – як праходзілі ў той жа Польшчы", – мяркуе эксперт.

Эканаміст падкрэслівае, што цяпер важна абараніць незабяспечаных грамадзянаў, а таксама падвысіць дапамогу беспрацоўным. "Беспрацоўе будзе расці, калі мы будзем працягваць "шокавую тэрапію", але калі не будзем – то здарыцца тое ж самае, што было ў 2011 г.: інфляцыя і дэвальвацыя, змушанае зніжэнне ўзроўню жыцця", – заявіў Леанід Злотнікаў.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# І НАВОШТА НАМ ГЭТЫЯ ВЫБАРЫ?

*(Працяг. Пачат. нра стар. 1)*

на яго ўтрыманне патрэбна нашмат менш, чым на дэпутатаў Нацыянальнага Сходу. Няхай прызвычайваецца, меншы Аліеў у Азербайджане таксама ў бацькі вучыўся. Як і і Кім Чэн Ун у Паўднёвай Карэі, дарэчы.

Тое ж, што прадстаўнікоў дэмакратычных сіл у новым беларускім "парламенце" не будзе, зразумела ўжо даўно. Яны ж могуць нейкія праблемы ўздымаць, сумнявацца ў мудрых рашэннях нашага галоўнага спецыяліста ў развіцці абсалютна ўсіх галін народнай гаспадаркі. Таму Аляксандр Рыгоравіч яшчэ ў лютым папярэдзіў: у "Палаце" павінны быць толькі правераныя кадры. Наколькі я ведаю, у нашай Магілёўскай вобласці ўжо зацверджаны спісы з "альтэрнатыўнымі" кандыдатамі па ўсіх акругах. Нават вызначана, хто ў якой акрузе будзе пераможцам. Канешне, магчыма "брэшуць" аб гэтым праклятыя супастаты, падрываючы давер да выбарчай сістэмы нашай дэмакратычнай краіны, аднак па выніках "выбараў" усё адразу будзе бачна. Тым больш, што інфармацыя гэта сыходзіць зусім не ад "наймітаў праклятых буржуінаў"…

Ну а самі прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці пакуль спрачаюцца, чым ім займацца ў перыяд гэтай выбарчай кампаніі. Днямі тэлеканал «Белсат» паспрабаваў разабрацца: хто якой пазіцыі трымаецца і чаму?

### Радыкалы

Поўны байкот абвесцілі моладзевыя арганізацыі шматлікіх палітычных структураў. Яны назвалі кампанію «Ігнор-2012» і збіраюцца «хараша пасцябацца з выбараў» праз "Zмена", "Малады фронт", "Маладыя дэмакраты" і моладзевае крыло "Еўрапейскай Беларусі" - за абсалютны байкот выбараў.

### Памяркоўныя

Старэйшыя апазіцыянеры ў сваю чаргу ладзяць агульнанацыянальную кампанію байкоту пад лозунгам «Ад байкоту выбараў – да байкоту ўлады». Ажыццяўляць кампанію будуць БХД, «Еўрапейская Беларусь» і «Беларускі рух». Іхны байкот прадугледжвае агітацыю насельніцтва, акцыі ды інфармаванне людзей падчас сустрэчаў. БХД збіраецца на кожнай акрузе вылучыць свайго «кандыдата ў байкоце», каб той супрацьстаяў кандыдату ад улады.




План АГП не розніцца ад кампаніі БХД, аднак аб'яднаць намаганні традыцыйна не атрымалася. Кандыдаты ад АГП будуць называцца спікерамі.

### Нявызначаныя

Партыя БНФ прыме рашэнне ў залежнасці ад дзеянняў улады. Наш зямляк Рыгор Кастусёў у інтэрв'ю службе інфармацыі «Белсату» паведаміў:

«Сойм БНФ прыняў рашэнне, што мы будзем вылучаць кандыдатаў. Але калі перад выбарамі сітуацыя ў краіне з палітвязнямі не зменіцца і нашыя людзі не будуць улучаныя ў камісіі, то мы будзем прымаць рашэнне аб зняцці. <...> Нехта ўспрымае байкот як зусім адсутнасць дзейнасці і простае заяўленне сваёй пазіцыі. Аднак сапраўдны байкот – вельмі цяжкая праца, яшчэ цяжэйшая за вылучэнне кандыдатаў».

### Праціўнікі

Ад байкоту адмаўляецца партыя Сяргея Калякіна «Справядлівы свет». Такой жа пазіцыі трымаецца экс-кандыдат на прэзідэнта, палітвязень Мікалай Статкевіч. Ён мяркуе, што апазіцыя блытае байкот выбараў Мікола Статкевіч з-за кратаў заклікае да ўдзелу ў выбарах з няўдзелам у іх. Мікола Статкевіч з-за кратаў заклікае да ўдзелу ў выбарах

### Вынік ужо вядомы?

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі мяркуе, што на сённяшні момант апазіцыя зноў загадзя атрымала паразу на выбарах.

«Кепска, што дарослыя дзядзькі не дамовіліся. Бо выбары сапраўды нулявыя, на іх не зробіш рэвалюцыі. І адзінае, што можна было б супрацьпаставіць рэжыму, што можна было б прадаць у PRаўскім сэнсе для электарату, – гэта мэсыдж накшталт: «Супраць лому няма прыёму, але мы адзіныя, мы згуртаваныя». А так – усіх заблытваюць сваркамі, тузанінаю, складанымі схемамі. Шараговы беларус мысліць біпалярна: вось Лукашэнка, а вось тыя, хто супраць яго. Дык за што выступаюць тыя, хто супраць Лукашэнкі? Выбарнік плюне ды скажа: вы паміж сабою разбярыцеся, а потым будзеце тлуміць мазгі людзям».

Прычыны такой стракатасці пазіцыяў аналітык бачыць у схаваных ад грамадства інтарэсах партыяў ды іх лідараў:

«Існуюць карпаратыўныя інтарэсы, таму асобныя партыі ды асобныя лідары вырашылі гнуць сваю лінію.

*(Працяг на стар. 3)*

# І НАВОШТА НАМ ГЭТЫЯ ВЫБАРЫ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 1-2)*

Спробы выпрацаваць агульную стратэгію, а потым адзіны мэсыдж на гэтую кампанію правалiліся. Усе яны сыходзяцца ў тэзе, што выбараў няма Не зразумела, чаму на гэтай глебе ім не аб'яднацца. Таму прыходзім да высновы, што водападзел палягае на іншых, схаваных ад шырокай публікі прынцыпах ці інтарэсах».

### Аляксандр Класкоўскі: сёння сарваць выбары немагчыма

«Кладучы руку на сэрца, нават тыя адэпты байкоту, якія кляймуюць іншых, разумеюць, што сарваць гэтыя выбары немагчыма. <...> На выхадзе ва ўлады будзе ўсё «ціп-топ». Ніякіх пратэстаў не адбудзецца. І таму схема «Ад байкоту выбараў – да байкоту ўлады» зусім адарваная ад рэальнасці», – гаворыць эксперт.

Калі прагноз Класкоўскага ды іншых аналітыкаў спраўдзіцца, то ў выніку ў апазіцыі застаецца толькі прыгожая поза. Максімалісты будуць вешаць на іншых ярлыкі калабарантаў, а самі выхваляцца тым, што не ідуць на кампрамісы з рэжымам. Наўрад ці гэта скансалідуе апанентаў улады да выбараў прэзідэнцкіх.

Да гэтага магу дадаць толькі тое, што і па нашай Шклоўскай выбарчай акрузе плануюць вылучацца альтэрнатыўныя кандыдаты. Ёсць нават верагоднасць, што гэта будзе не адзін чалавек, бо жадаючыя прыняць удзел у "выбарах" прадстаўляюць розныя палітычныя сілы. На што яны спадзяюцца, я асабіста не ведаю. Магчыма, захацелася скласці кампанію тым беларускім палітвязням, якія яшчэ знаходзяцца за кратамі пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў, але магчыма і тое, што гэтыя дарослыя людзі паверылі ў казкі пра дэмакратыю у нашай "вольнай" краіне. Цікава таксама і тое, хто пойдзе па нашай акрузе ў якасці кандыдатаў ад улады. Беларуская калійная кампанія мяркуе перанесці свой галоўны офіс да "праклятых буржуінаў" у Швейцарыю, таму змагацца за інтарэсы нашага квітнеючага рэгіёна з гэтай "загніваючай" краіны яе генеральнаму дырэктару Валерыю Іванову будзе цяжка, калі не сказаць больш. Гэта ж у нас тут заробкі і эканоміка растуць шалёнымі тэмпамі, а там крызіс, людзі выжываюць, сярэдняга заробка ў чатыры з паловай тысячы франкаў не хапае на самае неабходнае…

Аднак аб гэтым, паважаныя чытачы, я распавяду падрабязней ужо ў наступным артыкуле.

***Іван Барысаў***




## НЕЛЕГАЛЬНЫХ ТАКСИСТОВ ОБЕЩАЮТ ЛИКВИДИРОВАТЬ

Шестьдесят девять нелегальных таксистов выявили за 1 квартал текущего года в Могилевской области. 23 из них получили предупреждение, сообщил сегодня во время пресс-конференции по вопросам организации работы общественного транспорта начальник отдела транспорта и коммуникаций Могилевского облисполкома Петр Барбарчик.

Если у «маршруток» данной проблемы давно не существует, то для такси она еще достаточно актуальна. «Занятие такой предпринимательской деятельностью без государственной регистрации недопустимо, - сказал Петр Барбарчик. – Однако, несмотря на достаточно высокие штрафы, желающих подзаработать не уменьшается».

С начала года за повторные правонарушения хозяйственным судом Могилевской области привлечены к административной ответственности 45 человек. В одном случае был конфискован автомобиль стоимостью Br85 млн.

***"МВ"***

### Захотел покататься

24 мая Следственным Комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении неработающего жителя д. Отверница 1964 г.р. (ранее судимого за грабеж), который 13 мая около 14-00 в агрогородке Ланьков со двора дома гражданина 1971 г.р. похитил лошадь, стоимостью 8,6 млн рублей. Мера пресечения не избиралась.

# ЦІ ДАПАМОГУЦЬ "ДНІ ЦЬВЯРОЗАСЦІ"?

У Магілёве даўно ўжо не чуваць пра «дні цьвярозасьці». Часьцей зьяўляюцца абвесткі пра абмежаваньні продажу піва і гэтак званага «чарніла». Па-за ўвагай не застаецца і барацьба з самагонаварэньнем.

Цяпер у Магілёве набыць пляшку «пладова-ягаднага» дазваляецца ад 10-й да 12-й гадзіны і ад 14-й да 18-й. Чыноўнікі заяўляюць, што продаж «чарніла» за год «экспэрымэнту» скараціўся ўдвая. Ну а ў хуткім часе таннае віно будзе прадавацца наогул з толькі да 17 гадзін.

Тым часам людзей зь відавочнымі прыкметамі пахмельля, якія зранку і ўвечары таўкуцца ля крамаў, не паменела. Ня сталі меней піць і ў сельскай мясцовасьці, заяўляе наведніца адной з крам.

«Нашых гэтых алькаголікаў нічога не спыняе. Знаходзяць гэтыя свае „точкі", дзе хто прадае. Я вось зь вёскі. Госпадзі, там у іх адна мэта — ад ранку напіцца. Атрымалі пэнсію — на два дні больш няма».

За два першыя месяцы году міліцыя канфіскавала 477 літраў самагонкі і іншых напояў, якія выраблялiся і прадаваліся незаконна. Заяўляюць, што абмежаваньні станоўча паўплывалі на ўзровень злачыннасьці.

Дык ці праўда, што «дні цьвярозасьці» і іншыя абмежаваньні могуць зьменшыць спажываньне алькаголю — цікаўлюся ў мінакоў.

Спадарыня: «Не. Як паказвае практыка, людзі стараюцца загадзя купіць алькаголь, каб такім чынам адзначыць «дзень цьвярозасьці».

Спадарыня: «Вырашэньне такіх пытаньняў залежыць ад разьвіцьця інтэлекту асобы. І калі дазваляе інтэлект, чалавек не спажывае. А гэтыя „дні", забароны выніку патрэбнага не даюць. Гэта не вырашае праблемы. Гэта проста мерапрыемствы».

Дваццаць дзьве з паловай тысячы жыхароў Магілёўшчыны стаяць на наркалягічным уліку. Амаль восем тысяч — пад прафіляктычным наглядам. Спэцыялісты-нарколягі прызнаюць, што гэтыя лічбы не адлюстроўваюць рэальных маштабаў алькагалізацыі грамадзтва. Сумняваюцца яны і ў тым, што абмежаваньні продажу алькаголю здольныя палепшыць сытуацыю.

«Гэта не рашэньне праблемы. У першую чаргу такім людзям трэба аказваць мэдычную дапамогу, а мы ўвесь час зь нечым змагаемся», — зазначае супрацоўніца абласнога наркалягічнага дыспансэру.

У магілёўскім клюбе ананімных алькаголікаў салідарныя зь меркаваньнем мэдыка. Абмежаваньні — не дапамога, заяўляе адзін з наведнікаў клюбу:

«Для пачаткоўцаў, для падлеткаў гэта, можа, і дапамога, але гэта не вырашае праблемы — гэта адназначна. За вушы гэта прыцягнута, я лічу так. Калі я захачу выпіць, хоць я ўжо дванаццаць гадоў не ўжываю алькаголю, то знайду заўжды, усюды і бяз грошай».

Беларусь у апошнія гады стабільна ўваходзіць ва ўсясьветны ТОП-10 як па аб'ёмах вытворчасьці моцных напояў, так і па іх спажываньні. У 2011–2012 гадах сярэднія цэны на алькаголь у краіне вырасьлі амаль у 3 разы, а фізычна продаж гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў павялічыўся больш як на 18 працэнтаў.




У 2012 годзе квоту на вытворчасьць гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў павялічылі на 7,3% — да 20 мільёнаў дэкалітраў. Паводле прагнозу, продаж сьпіртнога на душу насельніцтва павялічыцца да 13–14 літраў на чалавека супраць 12,4 літра ў 2011 годзе. Паводле разьлікаў мэдыкаў, крытычная адзнака, пасьля якой наступаюць незваротныя дэмаграфічныя наступствы, — гэта 8 літраў на чалавека.

***Радыё "Свабода"***

## ЛЮДИ СХОДЯТ С УМА?

Облили бензином и подожгли за долг в Br200 тысяч.

Двое молодых мужчин решили разобраться с должником, который отказался возвращать деньги.

Трагедия разыгралась в деревне Сидоровичи Могилевского района. Потерпевший, 46-летний местный житель, занимался сбором и сдачей металлолома. Двое неработающих друзей принесли ему лом и попросили сдать, обещав вернуться за деньгами. Однако деньги – Br200 тысяч – мужчина возвращать отказался.

Такой поворот событий разозлил парней. Один из них облил должника бензином, а второй бросил зажженную спичку, сообщили в УВД Могилевского облисполкома. Когда огонь охватил мужчину, они испугались и сбили пламя. Затем поджигатели забрали свои деньги и скрылись. Потерпевший обратился за помощью к соседям, которые вызвали "скорую помощь" и милицию.

Мужчину доставили в могилевскую больницу №1 с термическими ожогами лица, рук и грудной клетки.

Против поджигателей Могилевским районным отделом следственного комитета возбуждено уголовное дело за принуждение к выполнению обязательств. Им грозит лишение свободы на срок от трех до десяти лет, сообщает сайт УВД Могилёвского облисполкома.

# ЧАМУ ІДЗЕ АБВАЛ БАЛАЎ НА ЦТ?

“Паходня” па просьбах чытачоў передрукоўвае змешчаную раней у газеце “Наша ніва” гутарку з унікальным рэпетытарам фізікі і матэматыкі Яўгенам Лівянтам. Андрэй Лівянт - папулярны ў Мінску рэпетытар па матэматыцы і фізіцы. Ён мае 24-гадовы вопыт выкладчыцкай дзейнасці. З 1996 — настаўнік вышэйшай катэгорыі. Адукацыя: вышэйшая, фізічны факультэт БДУ. Штогод рыхтуе да тэстаў каля сотні вучняў.




### Якія настаўнікі, такія і вучні…

На думку сп. Лівянта, галоўная бяда сучаснай школы — у настаўніках. Праблема як у нізкім заробку, так і ў рабскім становішчы педагога.

Больш безабароннай прафесіі, чым настаўнік, няма. Настаўніцкі прафсаюз нічога не значыць і нічога не робіць.

Добры прафесіянал, якому 35—40 гадоў, не можа доўга вытрымліваць знаходжанне ў такім рабскім становішчы. І не толькі таму, што заробак мізэрны. Таму ў пэўны момант ён сыходзіць.

### Хто ідзе ў пед?

Пединстытуты ніколі не лічыліся самымі прэстыжнымі ВНУ. Але туды паступалі ў асноўным «харашысты» і «выдатнікі». Зараз жа, пры заробках, якія ёсць, у «пед» ідуць тыя, хто не зможа паступіць у іншыя ВНУ.

«Калегі з фізічнага і матэматычнага факультэта расказваюць, што першыя паўгода яны не займаюцца па праграме. Яны вучаць студэнтаў элементарным школьным ведам. Рашаюць ураўненні для 6-7 класаў тыпу 10х+5=20».

У гэтым годзе педагагічныя ВНУ краіны не дабралі студэнтаў нават на бясплатную форму навучання.

### Вызваліце ад пісаніны!

Калегі Лівянта, якія працуюць у школе, скардзяцца на вялікую колькасць папераў. Час марнуецца на папяровую працу, а, да прыкладу, на праверку сшыткаў настаўніку старэйшых класаў у тыдзень адводзіцца адна гадзіна. А гэта — важны момант у працэсе навучання, зваротная сувязь з вучнем.

### Што з падручнікамі?

Галоўны недахоп школьных падручнікаў — вялікая колькасць памылак і перанасычанасць непатрэбнай інфармацыяй.

«У падручніку па гісторыі пералічаны сотні імён, прычым імёны вялікіх людзей сустракаюцца гэтак часта, як і малавядомых».

Пра якасць школьных падручнікаў гаворыць і тое, што па іх ніхто не рыхтуецца да ўступных экзаменаў. Рэпетытары карыстаюцца вучэбнымі дапаможнікамі ці расійскімі падручнікамі, якія фактычна з’яўляюцца перавыданнем савецкіх. Употайкі так робяць і многія настаўнікі.

Праграмы па розных прадметах бываюць не звязаныя між сабой. Напрыклад, у падручніку 6 класа па фізіцы сустракаюцца задачы з адмоўнымі ступенямі. А па матэматыцы такое яшчэ не праходзілі!

### Рэформы: змяняем форму, пакідаем змест

«То вырашалі, вучыцца 12 ці 11 гадоў? Павінна быць 5-бальная ці 10-бальная сістэма? Патрэбна ці не школьная форма? Прафесійна-тэхнічныя вучэльні перайменавалі ў ліцэі, напэўна, у спадзяванні на тое, што цяпер яны будуць выпускаць Пушкіных і Кюхельбекераў».

Зараз ідзе дыскусія вакол правілаў паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. І зноў у цэнтры ўвагі не сутнасць праблемы – узровень ведаў абітурыентаў, а абмяркоўваецца, напрыклад, адмена льготаў.

### Пра адмену профільных класаў

Раней, апроч гімназій і ліцэяў, была вялікая колькасць звычайных школ з профільнымі класамі. Туды ішлі вучні, якія хацелі вучыцца. У гэтых класах працавалі найбольш моцныя настаўнікі. Залежнасць такіх вучняў ад рэпетытараў была значна меншай, чым цяпер.

Пасля рэформы 2008 профілі скасавалі. Школы вярнуліся да 11-гадовага навучання і 5-дзёнкі. Меркавалася, што паглыбленыя веды вучні атрымаюць на факультатывах. Аднак гэта аказалася ня-дзейсным.

Людзі хацелі адукацыі. Яны не прасілі грошай ці льгот. Для дзяржавы гэта каштавала капейкі . Бо што такое профільная адукацыя? Гэта значыць, настаўнікі і вучні бралі на сябе дадатковую нагрузку — больш урокаў ды хатніх заданняў. Але і вынік быў лепшы, што выгадна для ўсіх.

«У маёй галаве гэта не ўкладваецца. Навошта рэфармаваць тое, што нядрэнна працуе?

Усё гэта прывяло да таго, што асноўная частка выпускнікоў большменш ведаюць толькі праграму пачатковай школы: чытаць, не вельмі пісьменна пісаць, крыху лічыць.

«Калі вы мне не верыце, запытайце любога старшакласніка, чаму адбываецца змена пораў года, папрасіце прачытаць на памяць хаця б адзін верш Пушкіна ці Купалы, спытайце ў яго, хто такі Ленін або Вітаўт і гэтак далей».

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# УПАДЕТ ЛИ БЕЛОРУССКИЙ РУБЛЬ ВМЕСТЕ С ЦЕНОЙ НА РОССИЙСКУЮ НЕФТЬ?



Население принялось активно изымать вклады в белорусских рублях и переводить их в валютные заначки. Что подстегивает белорусов — растущий курс доллара или экономическая ситуация в России, которая ухудшается в связи с падением цен на нефть на мировом рынке (меньше 100 долларов за баррель)? И главное — есть ли причины для обвала белорусского рубля?

Будет ли слабеть белорусский рубль, во многом зависит от ожиданий белорусского населения, которые порой очень трудно предсказать. Возникновения паники эксперты не исключают.

— Мы знаем, как реагируют белорусы: даже если нет никаких объективных причин, они вдруг начинает скупать соль, хотя этой соли — хоть завались, — напоминает экономист Леонид Злотников. — Есть теория рациональных ожиданий: когда население правильно видит последствия своих действий и правильно делает свой выбор. Но это касается западного населения. А наше в панике может делать даже то, что ему невыгодно. Оно не ведет себя рационально.

Паника может возникнуть, потому что открыта граница и сильны экономические связи с Россией, соглашается экс-глава Национального банка Беларуси Станислав Богданкевич. Но сам он «пока не видит фундаментальных причин для обвала в Беларуси».

— У нас все управляемо. Бюджет как будто бы бездефицитный, процентные ставки по депозитам остаются высокими, размеры кредитов уменьшены, поскольку из-за больших процентных ставок предприятия мало брали этих кредитов, боясь невозврата. Достигнут внешнеторговый баланс, есть профицит бюджета за первый квартал, экспорт нефтепродуктов в Западную Европу вырос в два раза, по-прежнему есть золотовалютные резервы в размере 8 миллиардов долларов, да еще и Путин даст кредит в 440 миллионов долларов. Ничего особо страшного не будет — таков вывод эксперта.

Станислав Богданкевич спокоен и насчет падения цен на нефть на мировом рынке.

— Баланс внешней торговли Беларуси обеспечивается почти исключительно за счет нефтепродуктов. Но я не ожидаю больших проблем, — оценивает эксперт. — Белорусская экономика меньше, чем российская, зависит от нефтепродуктов. Белорусы все-таки люди работают и в обрабатывающем секторе, а не только живут за счет средств, получаемых от продажи нефтепродуктов. Это связано с наполнением бюджета, но не в такой степени, как в России.

В то же время экономист Леонид Злотников находит связь между очередями в обменных пунктах в России и в Беларуси из желающих обменять рубли на свободно конвертируемую валюту, а также отмечает возможное влияние российской ситуации на курс белорусского рубля. По словам эксперта, российские инвесторы держат в белорусских банках депозиты на сумму около триллиона белорусских рублей.

— Они покупали белорусские рубли и, пользуясь высокими депозитными ставками, тут зарабатывали. Половина этих депозитов — одномесячные, то есть, сейчас их уже можно снимать, — поясняет эксперт. — И они могут начать и здесь снимать белорусские рубли (а это в эквиваленте 200-300 миллионов долларов), и переводить их в валюту. Если повысится спрос на доллары, значит, в Беларуси будет повышаться курс доллара.

Паника, которая может возникнуть среди белорусского населения, только подогреет этот рост.

***Геннадий КОСАРЕВ, “Завтра твоей страны”***

## За январь-апрель текущего года на Могилевщине родился 3 841 ребенок

За январь-апрель текущего года на Могилевщине родился 3 841 ребенок, что на 2,5% больше, чем за аналогичный период 2011-го, сообщила председатель комитета по труду, занятости и социальной защите облисполкома Светлана Тарасенко.

По словам собеседницы, в сельских населенных пунктах за этот период появился на свет 921 малыш (24% от общего количества), а в городах и поселках городского типа – 2 920 (76 %).

На 1 мая 2012 года численность населения Могилевской области составляло 1078,2 млн. человек.

# БЯЛЫНІЦКАЯ, ШКЛОЎСКАЯ І КРУГЛЯНСКАЯ РАЁНКІ ПРАЙШЛІСЯ ПА ПРЫХІЛЬНІКАХ БАЙКОТУ

Амаль сінхронна раённыя газеты Магілёўскай вобласці – бялыніцкая “Зара над Друццю”, шклоўская “Ударны фронт” і круглянская “Сельскае жыццё” – надрукавалі артыкул “Напалохаць байкотам”, у якім рэзка крытыкуюцца прыхільнікі байкоту маючых адбыцца выбараў у Палату прадстаўнікоў.

Артыкулы, падпісаныя А. Пылько і амаль аналагічныя па змесце”, з’явіліся ў газетах амаль адначасова. У артыкуле выказваюцца абразы і рэзкая крытыка тых прадстаўнікоў дэмакратычнага грамадства, якія выказваюцца за байкот парламенцкіх выбараў.

У прыватнасці, Андрэй Пылько піша: “Весеннее обострение на деятельности пятой колонны сказывается не наилучшим образом… Все то, что предлагает сейчас оппозиция – это точно не бойкот. Это всего лишь манипуляция понятиями для оправдания своего бессилия. Непонятно другое, зачем хитрить, пускать кому-то пыль в глаза, прятаться за придуманными формулировками. Хотите вы участвовать в выборах, так и скажите, что вам это выгодно, нужно для собственного пиара и что вы в тайне надеетесь, что вам выпишут мандат в Администрации Президента. Хотя скорее выпишут что-то другое, но ведь надежда умирает последней... Бойкот выборов может быть успешным лишь тогда, когда его проводит действительно мощная политическая сила, обладающая непререкаемым авторитетом в обществе. Но на белорусской политической арене таковых не наблюдается»…




Зразумела, што артыкул з нападкамі на прадстаўнікоў дэмакратычнага грамадства і прыхільнікаў байкоту парламенцкіх выбараў не маглі амаль адначасова з’явіцца ў раёнках без загаду з боку ідэалагічнай вертыкалі. Верагодна, ідэалогаў вельмі хвалюе магчымасць арганізацыі байкоту так званых “выбараў” у Палату прадстаўнікоў.

Між тым, згодна Выбарчага Кодэксу Рэспублікі Беларусь, кожны грамадзянін сам мае права вызначаць, удзельнічаць яму ў выбарчай кампаніі, альбо не. У прыватнасці, у артыкуле 5 гаворыцца:

«Выборы Президента Республики Беларусь, депутатов Палаты представителей, депутатов местных Советов депутатов, участие в референдуме являются свободными: избиратель, участник референдума лично решает, участвовать ли ему в выборах, референдуме, за кого голосовать на выборах, за что голосовать на референдуме».

***Віктар Баравікоў***

## БЫЛОГА КІРАЎНІКА БРСМ СУДЗЯЦЬ У МІНСКУ

Справа былога першага сакратара БРСМ і былога намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Леаніда Кавалёва разглядаецца ў Мінскім гарадскім судзе.

Гэтую інфармацыю Tut.by пацвердзілі ў сталічным судзе. Суддзя, якая вядзе справу Кавалёва, катэгарычна адмовілася ад якіх-небудзь каментароў.

Нагадаем, што інфармацыя пра затрыманне Леаніда Кавалёва за атрыманне хабару ўпершыню з’явілася яшчэ летам 2011 года. Неўзабаве ён быў вызвалены ад займанай пасады.

Аднак кандыдатуру пераемніка на пасаду Кавалёва зацвердзілі толькі ў лютым 2012 года.

Варта адзначыць, што на гэтай пасадзе Кавалёў паспеў папрацаваць толькі паўтара года. Да гэтага ў 2009 годзе ён быў некалькі месяцаў у ролі намесніка старшыні Віцебскага гарвыканкама, куды быў пераведзены з пасады начальніка ўпраўлення справамі Мінскага аблвыканкама.

Аднак вядомасць ён атрымаў, будучы ў 2005-2008 гг. першым і другім сакратаром ЦК ГА “БРСМ”.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЕЛЫНИЧСКИЙ РАЙОН ЗАВАЛИТ СТРАНУ РЫБОЙ?

В Белыничском районе планируется производить до 50-60 т форели в год.

Сегодня на рынке килограмм свежемороженой форели можно купить за Br95-100 тыс. Все это товар из России, Норвегии, Дании, Швеции. Даже соседка Польша выращивают сегодня до 20 тыс. т форели в год. Но осенью местные производители обещают побаловать нас отечественной рыбкой. В белыничской деревне Вишов для ее выращивания уже созданы все условия, пишет газета “Могилёвская правда”.

«В прошлом году мы пробурили артезианскую скважину и построили питомник, — показал рыбные владения в окрестностях деревни мастер Белыничской ПМК №83 «Водстрой» Игорь Крупенин. — А в нынешнем апреле запустили в водоем 6 т молодой форели. Планируем производить до 50-60 т рыбы в год».

Пять небольших (33х4,5м) бассейнов находятся прямо под открытым небом. Через искусственный пруд перекинуты мостики, на перилах — пластмассовые емкости. «Это кормушки, — объяснил Игорь Крупенин. — Чтобы рыба быстрее набрала вес, кормим ее до 6 раз в день богатым протеином финским кормом, одна тонна которого стоит Br20 млн. Всего же на сезон потребуется не менее 4 тонн».

200-граммовых рыбешек в бассейнах очень много. На языке ихтиологов это — всего лишь «посадочный материал», который должен нагулять за лето почти килограммовый вес. За 3 недели обитания в питомнике молодняк нагнал почти по 150-200 гр. А планируется «догнать» вес до 2,5 кг. Судя по всему, чувствует себя форель превосходно: постоянная температура воды, хороший корм, фильтры биологической очистки...

Игорь Крупенин пояснил: идеальная температура воды для пресноводной форели 16-18 градусов. Холод и жару эта рыба переносит с трудом: впадает в коматозное состояние. По словам директора ПМК №83 Андрея Царикова, в этом году планируется начать строительство еще и крытого помещения для выращивания форели мощностью 75 т в год. Пока же используется летний вариант.

Белыничский питомник — первый шаг в масштабной программе разведения ценных пород рыб в Могилевской области. Строительство еще одного комплекса ведется в пойме реки Лахва в деревне Косичи Быховского района.

Конечно, разведение рыбы – дело хорошее и нужное. Вопрос в том, многие ли белыничане смогут себе позволить купить свежую форель по цене 100 000 рублей за килограмм. При том уровне зарплат, которые получают жители нашего района, для них эта рыба будет непозволительной роскошью. Как сообщают наши мудрые статистики, средняя заработная плата по народному хозяйству Белыничского района в апреле сложилась на уровне Br2676,5 тыс. Правда почему-то большинство моих знакомых говорят, что получают гораздо меньше, да и в предлагаемом на сайте министерства труда и соцзащиты списке вакансий по нашему Белыничскому району я не нашла ни одной работы с зарплатой больше двух миллионов. Однако, как известно, статистики в нашей стране ошибаться не могут, это просто люди занижают размер своих доходов…



Так что будем кормить нашей рыбой жителей более богатых регионов Беларуси и соседней России.

***Виктория Белова***

## За час нерасту рыбакі Магілёўшчыны навудзілі на 12 «рыбных» крымінальных спраў

За перыяд нерасту на Магілёўшчыне было зарэгістравана 275 парушэнняў, канфіскавана 263 лескавых сеткі агульнай працягласцю 13 кіламетраў. Два выпадкі з прыкметамі крымінальнай справы прыйшліся на апошні тыдзень. У адным з іх рыбак навудзіў больш чым на 4,5 мільёны рублёў. А страты, нанесеныя жыхаром Слаўгарада, які застрэліў цяжарную самку кабана, ацэненыя ў 420 базавых вялічыняў, паведамляе 2 канал Магілёўскага тэлебачання.




## ПЛЕНЭР НА БЕЛЫНИЧСКОЙ ЗЕМЛЕ

Международный пленэр по живописи «Образ Родины в изобразительном искусстве» открылся в Могилеве (во вторник, 5 июня). Он приурочен 140-летию со дня рождения известного белорусского художника Витольда Белыницкого-Бирули.

Пленэр, который проходит на территории Беларуси и России, собирает известных художников в 17-ый раз. В этом году в нем участвуют 20 пейзажистов из Беларуси, Украины, России, Армении, Казахстана, Израиля и впервые – из Китая. Сначала художники две недели работали в российском музее Поленова. Теперь их ждут пейзажи Могилева, Белыничского, Круглянского, Славгородского и Оршанского районов.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 06.06. 2012 г. у 22-30.